№№53–54
(3592–3593)
3 красавіка 2012 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ГАЗЕТА—ЧЫТАЧЫ

## ...І Вам прывязуць «Народную Волю» дахаты

*— Пайшоў на пошту, а там сказалі: “Усё, падпіска на красавік скончылася, нічога зрабіць не можам...”*

*— Гэта ж трэба было трапіць у бальніцу! А выпісаўся — успомніў, што не працягнуў падпіску на “Народную Волю”. Як жа быць?*

*— Шчыра скажу: жыву ад пенсіі да пенсіі. Калі днямі атрымаў грошы, зайшоў на пошту, каб прадоўжыць падпіску на “Народную Волю”, то пачуў: “Позна”. А я хачу атрымліваць газету і ў красавіку...*

*Не было б бяды, калі б толькі тры чалавекі трапілі ў такую сітуацыю. Па розных прычынах не змаглі аформіць падпіску на “Народную Волю” на красавік многія чытачы. І вось просьба за просьбай: дапамажыце!*

*Якое ж выйсце з сітуацыі?*

*На жаль, тым чытачам, якія пражываюць у рэгіёнах, можам толькі параіць: калі тэрмінова аплаціце за месячны камплект газет (17.000 руб.) праз рэдакцыйны рахунак, то мы ў красавіку дашлем іх вам у канверце. Але ж вы адразу аформіце падпіску* ***праз пошту на май і чэрвень.***

*Нашы банкаўскія рэквізіты: “р/с 3012006535014 ЦБУ 113 “Приорбанк” ОАО, код 749 г.Минск, ул.Комсомольская, 13, УНН 100961759. Адрес редакции: 220030, г.Минск, ул.Энгельса, 34А”.*

*Тыя жыхары сталіцы, якія хочуць і ў красавіку атрымліваць “Народную Волю” па падпісцы, могуць тэрмінова аплаціць кошт месячнага камплекта праз рэдакцыйную касу — і газета будзе дастаўляцца Вам непасрэдна дахаты. (Тэлефон для даведак —* ***328-68-71****.)*

*На май і чэрвень не спазніцеся, калі ласка, з перападпіскай праз паштовыя аддзяленні і спецыялізаваныя пункты “Белсаюздруку”.*

***Вы — з «Народнай Воляй», «Народная Воля» — з Вамі!***

СРАВНИМ!

## До российских пенсий нам далеко




В России в очередной раз повышены пенсии. В этом году у наших соседей это уже второе повышение. Первое состоялось в феврале, когда трудовые пенсии гражданам России были увеличены на 7%. На этот раз трудовые пенсии проиндексированы на 3,41%, а социальные — на 14,1%, и средний размер трудовой пенсии по старости в России составил почти 9,8 тысячи российских рублей, или **326 долларов**.

В Беларуси в этом году пенсии тоже повышались. Это случилось в феврале. И повышение, казалось бы, было немаленьким — трудовые пенсии выросли в среднем на 24 %. Кроме того, пенсионерам старше 75 или 80 лет с января установили доплаты. Но сегодня наши пенсионеры имеют пособие в 2 раза меньшее, чем в России. Средний размер трудовой пенсии по возрасту составляет в Беларуси 1 миллион 255 тысяч 236 белорусских рублей, или приблизительно **157 долларов.**

В России, к слову, в августе обещают снова увеличить пенсии: должен произойти традиционный перерасчет трудовых пенсий работающих пенсионеров. В Беларуси тоже обещают до конца года проиндексировать пенсии. Но, как заявляют в Министерстве труда и соцзащиты, реальный размер пенсии по возрасту увеличится в этом году на 4,7—4,9 процента. Для сведения: только за март по отношению к февралю цены на товары и услуги выросли в Беларуси на 1,2%, сахар подорожал на 7,5%, соль — на 2,7%, свинина (кроме бескостного мяса), колбаса вареная первого сорта и полукопченая, пельмени, яйца, майонез, печенье, чай подорожали на 0,9—1,4%. Белстат не скрывает, что Беларусь остается лидером по росту индекса потребительских цен среди стран СНГ и Европы. А если сравнить с Россией, то в феврале 2012-го по сравнению с декабрем 2011 года в Беларуси рост потребительских цен составил 3,5%, а в России — 0,9%.

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

## *На Вялікдзень каталікоў — мароз і дождж*

Заўтра на большай частцы тэрыторыі Беларусі пройдзе снег, мокры снег, па поўдні — з дажджом. Тэмпература паветра ноччу мінус 3°С — плюс 3°С, па паўночным усходзе пры праясненнях да мінус 7°С. Максімальная тэмпература днём будзе вагацца ад 0°С на поўначы да плюс 13°С на поўдні краіны.

У чацвер захаваецца ўплыў цыклону, які будзе перамяшчацца ўглыб Расіі. Таму на большай частцы тэрыторыі Беларусі пройдуць ападкі ў выглядзе мокрага снегу і дажджу, а па поўначы Віцебскай вобласці ў асобных раёнах — моцны мокры снег. Тэмпература паветра мінімальная днём плюс 2—9°С, па паўднёвым усходзе Гомельскай вобласці — на пару градусаў цяплей.

У пятніцу будуць праясненні, і ў дзённыя часы парадуе сонца.

А ў выхадныя атмасферныя франты Заходняй Еўропы стануць прычынай пагаршэння надвор'я. На большай частцы тэрыторыі Беларусі пройдуць ападкі ў выглядзе мокрага снегу і дажджу. Ноччу і раніцай у асобных раёнах слабы галалёд, на дарогах галалёдзіца. Тэмпература паветра ў суботу мінімальная ноччу мінус 4°С — плюс 3°С, максімальная днём плюс 3—10°С, па паўднёвым усходзе да плюс 13°С. У нядзелю, калі ў каталікоў будзе Вялікдзень, чакаецца паўночны вецер і тэмпература паветра ноччу панізіцца да 0°С — мінус 7°С. Днём чакаецца 0°С — плюс 9°С.

ПАРАЛЕЛІ

## *Каму соладка, каму горка*

Па даных Расійскага статыстычнага камітэта, у студзені-лютым гэтага года кошт цукру-пяску панізіўся ў гэтай краіне на 30 працэнтаў у параўнанні з аналагічным перыядам 2001 года.

Ва Украіне аптовыя цэны на цукар складаюць 600 долараў за тону, хаця ў 2011-м — 810 долараў.

А што ў Беларусі? Чаму ў нас ніколі нічога не таннее, а наадварот, цэны ўсё падвышаюцца?

Дарэчы, цэны на цукар у нашай краіне рэгулююцца не рынкам, а дзяржавай.

SOS!

## *Сяргея Каваленку пачалі прымусова карміць праз зонд*

Стан віцебскага актывіста КХП—БНФ Сяргея Каваленкі, які працягвае шматдзённую галадоўку, пратэстуючы супраць прысуду, пагоршыўся...

Пра гэта ўчора “Народнай Волі” паведаміла ягоная жонка Алена.

“Пасля таго як на мінулым тыдні Сяргея перавялі з мінскага СІЗА №1 у калонію Віцьба-3, яго стан значна пагоршыўся, — гаворыць Алена. — Гэта прызнаюць і турэмныя ўрачы. Яны ацэньваюць стан Сяргея як “бліжэй да цяжкага”. Муж важыць 45 кілаграмаў, ціск 90 на 60... Са слоў медыкаў, Сяргею ставяць кропельніцы з фізрастворам і вітамінамі. Акрамя таго, яго пачалі карміць праз зонд — даюць дзіцячую сумесь “Беллакт”. Мне сказалі, што ад нядзелі, 1 красавіка, яго кормяць гэтымі сумесямі шэсць разоў на дзень. Але самастойна есці муж па-ранейшаму адмаўляецца.

Я кожны дзень тэлефаную турэмным медыкам, бо мне патлумачылі, што, пакуль Сяргею робяць кропельніцы, убачыцца з ім не дазволяць ні мне, ні маці. Маўляў, ідзе лячэнне... Аб пераводзе Сяргея ў цывільны шпіталь размова па-ранейшаму не ідзе. Турэмныя медыкі не выключаюць такой магчымасці, але кажуць, што пакуль стан здароўя Сяргея ў іх пад кантролем, і яны спраўляюцца з сітуацыяй самі. Хаця для мяне відавочна, што рашэнне аб пераводзе мужа ў нармальную, цывільную бальніцу папросту замаруджваецца. Учора вечарам я размаўляла з турэмнымі медыкамі. Мне сказалі, што ў Сяргея ўзніклі праблемы з ныркамі — яны апусціліся і зменшыліся ў памерах, іншымі словамі — усыхаюць. Паведамілі, што курс лячэння кропельніцамі будзе доўгатэрміновым, таму да канца гэтага тыдня ўбачыцца з мужам мне не дазволяць”.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

ЧУЛІ?

## *Да нас едзе...*

Візіт прэзідэнта Туркменістана ў Беларусь чакаецца ў красавіку. Пра гэта паведаміў першы намеснік міністра замежных спраў Беларусі **Ігар Петрышэнка**, выступаючы ў Палаце прадстаўнікоў, перадае БЕЛТА.

На сённяшні дзень Туркменія знаходзіцца ў тройцы самых закрытых у дачыненні да свабоды слова краін свету. Акрамя таго, краіна ўвесь час падвяргаецца крытыцы з боку праваабарончых арганізацый, міжнародных інстытутаў, фондаў і місій за парушэнні ў галіне правоў чалавека, прыгнёт па рэлігійным прынцыпе, прымяненне катаванняў у турмах.

## *Па $554*

У Кітаі здзейснілі “блакітную мару” беларускіх улад — сярэдні заробак у гэтай краіне дасягнуў і нават пераваліў за 500 долараў: згодна з данымі нацыянальнай статыстычнай службы, ён дасягнуў 554 долараў. За пяць год ён вырас удвая.

«ПРАМАЯ ЛІНІЯ»

## Аляксандр Мілінкевіч адкажа на любыя пытанні!

*6 красавіка з 13 да 15 гадзін у “Народнай Волі” пройдзе тэлефонная “Прамая лінія” з Аляксандрам Мілінкевічам.*

*Чаму менавіта з ім?*

*Таму што, як сведчыць рэдакцыйная пошта, да экс-кандыдата ў прэзідэнты, лідара Руху “За свабоду” шмат пытанняў у грамадскасці.*

*Якую ролю ён іграе на палітычнай сцэне краіны?*

*Нацыянальны герой ці звычайны дэмагог?*

*Мае давер у народа ці не?*

*Здольны згуртаваць беларусаў, дабіцца перамен ці “не па Сеньку шапка”?*

*Атрымаць адказы на гэтыя і многія іншыя пытанні ў чытачоў “Народнай Волі” будзе магчымасць падчас “Прамой лініі” з Аляксандрам Мілінкевічам. Спадзяёмся, ён задаволіць Вашу цікавасць па самых розных аспектах як свайго жыцця, так і жыцця нашай краіны.*

***Нумар “Прамой лініі”: 8-017 328-68-41. Яшчэ раз нагадаем: Аляксандр Мілінкевіч будзе на сувязі 6 красавіка з 13 да 15 гадзін.***

***Пытанні для Мілінкевіча таксама можна загадзя дасылаць праз электронную пошту nv@promedia.by і пісьмова ў звычайных лістах з пазнакай «Прамая лінія».***



БЛІЦ

## Колькі дзяцей пойдзе 1 верасня ў першыя класы з беларускамоўным навучаннем?

*Так, для нашай краіны гэта, можна сказаць, лёсавызначальнае пытанне. Русіфікацыя канчаткова пахавае мары пра нацыянальнае адраджэнне ці ўсё ж будучае Беларусі апынецца ў руках тых, хто атрымае беларускамоўную адукацыю і ніколі не стане на шлях манкуртаў?*

*Вось чаму архіважна, каб 1 верасня як мага больш дзяцей пайшло ў першыя класы з беларускамоўным навучаннем.*

*“Народная Воля” звярнулася да старшынь грамадскіх аб'яднанняў “Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны” і “Таварыства беларускай школы” з просьбай адказаць на тры пытанні:*

### Колькі дзяцей-першакласнікаў пойдзе сёлета ў беларускамоўныя класы?

**Алег Трусаў, старшыня ТБМ:**
*— Гэтага пакуль ніхто не ведае. Можа, у жніўні стане вядома.*

**Алесь Лозка, старшыня ТБШ:**
*— А хто ж гэта ведае? Гэта невядома...*

### З якой колькасцю бацькоў актывісты ГА “Таварыства беларускай мовы” і “Таварыства беларускай школы” правялі тлумачальную работу наконт таго, каб яны аддавалі дзяцей-першакласнікаў на беларускамоўнае навучанне, якія новыя формы агітацыі выкарыстоўваюцца ў гэтым плане?

**Алег Трусаў:**
*— На гэтае пытанне можа адказаць мая намесніца Алена Анісім. Трэба да яе звяртацца.*

**Алесь Лозка:**
*— З бацькамі мы, канешне, працуем. У рэгіёнах — Магілёве, Лідзе, Гродне, Брэсце — бацькі самі аб'ядноўваюцца і дабіваюцца пэўных вынікаў. Мясцовыя аддзелы адукацыі самі пачалі паціху рухацца, таму што ёсць новае палажэнне ад Міністэрства адукацыі, згодна з якім трэба праводзіць працу і адкрываць новыя класы. Яно не было надрукавана, але мы яго самі надрукавалі. Што да новых форм працы, то было такое, не памятаю — у Лідзе ці ў Гродне, калі абвесткі з заклікам аддаваць дзяцей у беларускамоўныя класы рабіліся нават у аўтобусах.*

**Алена Анісім:**
*— Спецыяльна ТБМ не праводзіць такой працы, каб агітаваць бацькоў. Іншая справа, калі бацькі сутыкаюцца з тым, што не могуць даць сваім дзецям адукацыю на беларускай мове, тады мы ім дапамагаем. Дапамагаем ім гуртавацца, дапамагаем матэрыяламі, тлумачым юрыдычныя аспекты, законы. Колькасць бацькоў бывае розная, звычайна каля трыццаці чалавек. Гэта па Мінску. У рэгіёнах да нас бацькі не звяртаюцца. Можа, яны не лічаць гэта патрэбным, можа, яны не бачаць перспектыў, каб даваць дзецям такую адукацыю.*

### Ці ёсць канкрэтныя прыклады таго, што ўлады чыняць перашкоды бацькам, якія хочуць сёлета аддаць сваіх дзяцей у першыя класы з беларускамоўным навучаннем?

**Алег Лозка**:
*— Самая галоўная перашкода — гэта адсутнасць напаўняльнасці класаў. Многія падаюць заявы, напрыклад, адну ці дзве, а ім потым адказваюць, што гэтага недастаткова, каб быў асобны клас. Дабіліся толькі ў Магілёве, каб там адкрылі класы з малой напаўняльнасцю. На Гродзеншчыне сітуацыя таксама лепшая — там адкрылі каля двух дзясяткаў класаў.*

**Алена Анісім:**
*— Галоўная праблема — дзіцячыя садкі. Калі бацькі кажуць, што хочуць даць дзецям адукацыю на беларускай мове, то ім адказваюць: “Нас гэта не цікавіць. Потым, калі пойдзеце ў школу, там і будзеце пра гэта казаць”. А пазней пытанне само па сабе не ўзнікае. Бацькам адмаўляюць, таму што “яны адны такія” і г.д. У Мінску самая складаная сітуацыя ў Фрунзенскім раёне, і паўтараецца яна з года ў год. Асноўнае, чым там прыкрываюцца, гэта тое, што мікрараён густанаселены. Так што, калі школы хаця б маюць нейкі статус беларускамоўных, то ў садках пра гэта няма нават і гаворкі. Калі і ёсць намінальна беларускамоўны клас, то туды бяруць усіх, а потым бацькоў сутыкаюць лбамі. Кажуць: “Вы сваіх беларускамоўных вазіце на Бельскага, а тут будуць рускамоўныя”. У школах крыху лепшая сітуацыя. Тым больш што пытанне вырашае і беларускамоўная гімназія №23. Што да рэгіёнаў, то мы не валодаем поўнай інфармацыяй.*

**Алег Трусаў**:
*— Што да перашкод, то самая галоўная — гэта тое, што ад тых, хто хоча аддаць дзяцей вучыцца на рускай мове, ніякіх заяў не патрабуюць. Заявы павінны пісаць бацькі дзяцей тытульнай нацыі, каб ім дазволілі беларускамоўнае навучанне. Калі я пісаў пра гэтую дыскрымінацыю міністру, то мне адказалі, што гэта будзе бюракратыя. Акрамя таго, бацькі павінны ў чэрвені падаваць заявы, а не напярэдадні навучальнага года ў жніўні. Тады будзе лягчэй пазбегнуць перашкод.*

**Пытанні задавала Любоў ЛУНЁВА.**

### АД РЭДАКЦЫІ

***Не будзем каментаваць кожнае слова, кожны сказ тых, хто адказваў на пытанні. Заўважым толькі: пакуль што не адчуваецца сур'ёзнай, напружанай, штодзённай работы ні з бацькамі заўтрашніх першакласнікаў, ні з мясцовымі ўладамі. І наогул — па-сур'ёзнаму так ніхто і не ўзяўся за вырашэнне праблемы. Ці не атрымаецца зноў так, што надыдзе 1 верасня, і далёка не ў кожнай школе з'явяцца першыя класы з беларускамоўным навучаннем?***

БЕЛАРУСЬ—ЕС

## *Паслы Еўрасаюза вяртаюцца ў Мінск?*

*Паслы Еўрапейскага Саюза ўсе разам вернуцца ў Беларусь неўзабаве пасля Вялікадня, калі Аляксандр Лукашэнка за гэты час не зробіць нейкіх рэзкіх захадаў, паведаміў сайт EUobserver. Сёлета каталікі святкуюць Вялікдзень ужо ў гэтую нядзелю, 8 красавіка.*

Мяркуючы па абнародаванай інфармацыі, рашэнне аб вяртанні кіраўнікоў місій было прынята еўрапейскімі дыпламатамі за зачыненымі дзвярыма ў Брусэлі на мінулым тыдні. *“У мяне яшчэ няма інструкцый, але я чакаю атрымаць іх у панядзелак”,* — цытуе EUobserver пасла краіны ЕС у Беларусі.

Адзін з еўрапейскіх дыпламатаў сказаў сайту, што паслы вернуцца, калі беларускі бок будзе сябе правільна паводзіць. *“Вядома, адсюль вынікае пытанне: што значыць “правільна”? Але, па ідэі, гэта павінна адбыцца”,* — адзначыў ён.

Нагадаем, 31 студзеня 2011 года на пасяджэнні ў Брусэлі Савет ЕС зацвердзіў спіс прадстаўнікоў беларускай дзяржавы, чый уезд у Еўрасаюз забаронены і чые актывы на яго тэрыторыі павінны быць замарожаны. На думку членаў савета, гэтыя асобы садзейнічалі парушэнню правоў чалавека ў Беларусі. Спіс неаднаразова пашыраўся, і цяпер у ім больш за 200 прозвішчаў. Санкцыі ЕС таксама тычацца 32 беларускіх прадпрыемстваў. Праводзячы такую палітыку, Еўрасаюз дабіваўся вызвалення і рэабілітацыі ў Беларусі палітзняволеных.

28 лютага беларускія ўлады рэкамендавалі кіраўніку прадстаўніцтва Еўрасаюза Майры Мора і паслу Польшчы Лешаку Шарэпку *“выехаць у свае сталіцы для кансультацый, каб давесці свайму кіраўніцтву цвёрдую пазіцыю беларускага боку аб непрымальнасці ціску і санкцый”.* У Мінск для кансультацый былі адклікаваны пастаянны прадстаўнік Беларусі пры Еўрасаюзе Андрэй Еўдачэнка і пасол Беларусі ў Польшчы Віктар Гайсёнак. У адказ краіны ЕС адклікалі сваіх паслоў з Мінска.

ГДЕ ЭТО ВИДАНО...

*Евгений УРЫВСКИЙ, замдиректора «Альфа-радио»:*

# «Все в шоке...»

*В конце минувшей недели интернет всколыхнула новость о возможном назначении **недавнего заключенного Шкловской исправительной колонии усиленного режима Егора Рыбакова** на должность директора коммерческой радиостанции "Альфа-радио".*

*Сообщалось, что 2 апреля, в понедельник, Рыбакова представят коллективу.*

*Вчера "Народная Воля" выяснила, что обязанности директора "Альфа-радио" пока по-прежнему исполняет Евгений Урывский. Однако вопрос о приходе на радиостанцию Егора Рыбакова не снят...*

**— Евгений Васильевич, интернет гудит о том, что сегодня, 2 апреля, Егора Рыбакова уже должны представить коллективу...**

— Я видел, но не знаю, почему все решили, что это случится сегодня, в понедельник. (*Разговор велся вчера.* — **Ред.**) Кстати, нас самих в минувший четверг поставили перед фактом, что, мол, ждите назначения, но потом выяснилось, что в понедельник назначение не состоится.

**— То есть вы ждете?**

— Ну как вам сказать... Решение еще не принято.

**— А решение принимает Министерство информации?**

— Нет, собрание акционеров.

**— И когда оно состоится?**

— Не знаю, пока не известно.

**— Рыбаков уже приходил к вам в офис знакомиться?**

— Нет, никаких контактов не было, мы с ним лично не знакомы.

**— А откуда вообще пришла новость о том, что Рыбаков придет директором на вашу радиостанцию?**

— От представителей Министерства информации. Но, как я понимаю, решение о назначении Рыбакова согласовывали выше. И вопрос о его назначении директором "Альфа-радио" пока остается открытым.

**— Даже не знаю, чего вам пожелать — скорейшей определенности с руководящими кадрами или...**

— Предварительно нам все сочувствуют. Не хотелось бы, честно говоря, чтобы случилось это назначение. Должность директора связана с некоторыми распорядительными функциями, с нашими партнерами и клиентами, а судя по отзывам в интернете и отзывам людей, знакомых с этим человеком... Понимаете, нам уже заранее объявляют бойкот.

**— А коллектив как на все это реагирует?**

— Очень болезненно. Все в шоке, напуганы, потому что прекрасно осведомлены о прошлом этого человека.

**— Евгений Васильевич, расскажите, как сегодня идут дела на "Альфа-радио"?**

— Идут в гору.

**— А я вот слышала, что не совсем. И что зарплаты очень маленькие — люди не хотят к вам идти работать.**

— Средняя зарплата по стране и Минску примерно у всех одинаковая, поэтому я уже не обращаю внимания на подобную критику. Мы довольно успешно налаживаем свое финансовое состояние, и коллектив на подъеме. А как будет дальше — покажет время...

**— Спасибо за информацию, держитесь!**

**Вера ВИР.**

### ДЛЯ СПРАВКИ

*"Альфа Радио" — одна из ведущих коммерческих радиостанций страны.*

*Вещает с 21 марта 1999 года.*

*Учредителями являются Министерство информации Республики Беларусь и частные инвесторы.*

*Тип радиовещания — музыкально-информационный (80% — музыка, 20% — информация).*

ПРОФИЛЬ

## Чем «прославился» Егор Рыбаков?



Егор Рыбаков был освобожден от должности председателя Белтелерадиокомпании 13 февраля 2004 года. Ему предъявили обвинение в получении взяток в крупном размере.

Согласно официальной информации, прокуратурой по делу Рыбакова изъято денежных средств на сумму свыше 500 тысяч долларов.

Накануне рассмотрения дела в суде сторона обвинения представила в Верховный суд ходатайство о том, чтобы процесс был закрытым, обосновав свою просьбу тем, что во время разбирательства дела в качестве доказательств будут представлены материалы, якобы являющиеся государственными секретами.

Рыбакова приговорили ***к 11 годам лишения свободы с конфискацией имущества и с лишением права занимать должности, связанные с выполнением организационно-распорядительных обязанностей сроком на 5 лет.***

Отбывал наказание он в исправительной колонии усиленного режима в Шклове.

Поскольку дело слушалось в закрытом судебном заседании, в день оглашения приговора зачитали лишь его резолютивную часть.

*"Именем Республики Беларусь 11 января 2005 года судебная коллегия по уголовным делам Верховного Суда Республики Беларусь рассмотрела в закрытом судебном заседании в городе Минске уголовное дело по обвинению Рыбакова Егора Владимировича, 19 ноября 1971 года рождения, уроженца города Новосибирска Российской Федерации, гражданина Республики Беларусь, проживавшего..., работавшего председателем Национальной государственной телерадиокомпании Республики Беларусь, образование высшее, ранее не судимого, женатого, имеющего на иждивении сына, 1 июля 1997 года рождения, военнообязанного, установила, что он виновен в совершении предъявленных ему обвинений, а поэтому, руководствуясь статьями 349, 364 Уголовно-процессуального кодекса, судебная коллегия по уголовным делам Верховного Суда Республики Беларусь приговорила: Рыбакова Е.В. признать виновным в злоупотреблении служебными полномочиями, совершенными из корыстной заинтересованности должностным лицом, занимающим ответственное положение, и повлекшее тяжкие последствия в получении взятки, в покушении на получение взятки, совершенное должностным лицом, занимающим ответственное положение, повторно, за заведомо незаконные действия путем вымогательства в особо крупном размере, а также организацией легализации, отмывания материальных ценностей, приобретенных преступным путем, совершенный повтор, и в особо крупном размере"*, — зачитал судья Александр Райдудин.

С Рыбакова также решено было взыскать больше 212 миллионов рублей ущерба в пользу Белтелерадиокомпании, больше 20 миллионов — в доход государства. Рассчитался ли уже с долгами Рыбаков — точно не известно. Но не так давно в Белтелерадиокомпании заявляли, что он им все еще должен.

А как насчет того, что по решению суда Е.Рыбаков в течение пяти лет после выхода на свободу не имеет права занимать руководящую должность?

Этот и десятки других вопросов интересуют общественность, которая внимательно следит за трудоустройством недавнего заключенного и в прошлом председателя Белтелерадиокомпании Егора Рыбакова.

## *Цана на газ будзе расці*

*Нацэнка на расійскі газ для нашай краіны складае 15,95 долара за 1 тыс. куб. метраў.*

Аб гэтым паведаміў першы намеснік міністра энергетыкі Эдуард Таўпянец, прадстаўляючы да ратыфікацыі ў Палаце прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу пагадненне паміж урадам Беларусі і ўрадам Расіі аб умовах куплі-продажу акцый і далейшай дзейнасці ААТ "Белтрансгаз".

*"Пагадненне адпавядае інтарэсам Беларусі",* — адзначыў першы намеснік міністра.

Таксама Э.Таўпянец паведаміў, што цана на расійскі газ для Беларусі ў 2013 годзе плануецца на ўзроўні 166 долараў, у 2014-м — 178, а ў 2015-м — 200 долараў за тысячу кубаметраў.

## *Глядзіце, хто ад'язджае...*

*6 красавіка нашу краіну пакідае пастаянны прадстаўнік Міжнароднага валютнага фонду ў Беларусі **Наталля Калядзіна.** Замены не будзе. Беларускі офіс МВФ застаецца без кіраўніка. Гэта значыць, што ў бліжэйшы час ніякіх буйных праектаў супрацоўніцтва паміж Беларуссю і Міжнародным валютным фондам не плануецца.*

Напярэдадні ад'езду Наталля Калядзіна адказала на пытанне, якое хвалюе многіх беларусаў: "Якія чаканні персаналу фонду наконт інфляцыйных працэсаў у Беларусі ў 2012 годзе? Ці могуць паўтарыцца леташнія падзеі?"

*— Я не думаю, што Беларусь чакае паўтарэнне леташняга крызісу,* — кажа Наталля Калядзіна. — *Аднак я не выключаю таго, што калі грашова-крэдытная палітыка будзе аслаблена, інфляцыя можа скласціся вышэй запланаванага ўрадам на 2012 год узроўню (19—22%). Сёння пытанне ў тым, наколькі амбіцыйнымі будуць улады ў частцы палітыкі макраэканамічнай стабілізацыі, як хутка яны хочуць яе дасягнуць. Калі яны будуць працягваць жорсткую грашова-крэдытную палітыку, дысцыплінаваную падаткова-бюджэтную палітыку, не дапусціць штучнага павышэння заробкаў, запланаваны ўзровень інфляцыі можа быць дасягнуты".*

Што тычыцца іншых запланаваных беларускім урадам паказчыкаў, то Наталля Калядзіна паведаміла, што фонд *"не бачыць крыніц, якія дазволілі б забяспечыць рост ВУП Беларусі ў 2012 годзе на запланаваным узроўні ў 5—5,5 працэнта".*

ОБРАТНАЯ СВЯЗЬ

# Как министр обороны Юрий Жадобин с людьми общался

*В минувшую пятницу, 30 марта, министр обороны Беларуси генерал-лейтенант Юрий Жадобин целый час отвечал на телефонные звонки — анонс "прямой линии" с министром накануне разместила газета "Советская Белоруссия".*

*"Народная Воля" решила использовать эту возможность и задать пару вопросов министру обороны. Дозвониться-то мы дозвонились — аж три раза, но вот с генералом Жадобиным нас ни разу не соединили.*

Трубку снимали помощники министра обороны, которые просили вначале представиться, а затем озвучить вопрос.

"*Я хотела бы озвучить вопрос непосредственно министру — это все-таки его "прямая линия",* — ответила я, дозвонившись в первый раз, но после этого связь вдруг прервалась.

Видимо, случайно, решила я, и дозвонилась снова.

Сразу назвала свое место работы и озвучила три коротких вопроса к Жадобину.

*"Ждите",* — сказал какой-то, видимо, помощник министра, тезисно пометив вопросы. Через несколько минут он снова вышел на связь и сказал: *"Назовите свое имя, министр требует, чтобы вы представились".* Я сказала, как меня зовут, после этого услышала: *"Ждите, министр сейчас отвечает на вопросы",* — и через минуту-другую связь опять оборвалась.



**В компании с Виктором Лукашенко и Сергеем Сидорским Юрий Жадобин (в центре) чувствовал себя уверенно.**

Дозвонилась снова. Терпеливо объяснила ситуацию: мол, уже звонила, представлялась, озвучивала вопросы, но связь почему-то обрывалась. Человек на другом конце провода неожиданно предложил задать вопросы ему — мол, я помощник министра генерал-майор **Александр Николаевич Гура**, может, смогу ответить.

Но на "прямой линии" дежурит-то сам министр, это ***ему*** люди звонят и от ***него*** хотят услышать ответы, а не от помощника по идеологической работе в Вооруженных силах — начальника Главного управления идеологической работы!

*"Тогда ждите, министр сейчас разговаривает по телефону",* — тихо ответил Гура. Но не прошло и минуты, как в телефонной трубке раздались короткие гудки...

Больше я решила Жадобину на "прямую линию" не звонить. Бесполезно... Да и час, отведенный на телефонное общение министра с народом, уже пролетел.

Предположим, что генерала Жадобина на самом деле рвали на куски, он не успевал отвечать на вопросы, был чрезвычайно востребован. Но такой вариант развития событий можно было предусмотреть. И организовать не 60 минут телефонного общения, а 120 или 180. И сделать так, чтобы министр ***сам*** снимал телефонную трубку, ***сам*** всем отвечал, чтобы звонки не фильтровала свита его помощников. Или это совсем не генеральское дело — на собственной "прямой линии" самому сказать в телефонную трубку "Алё!"?

Лукашенко не раз говорил о том, что чиновники всех мастей должны быть ближе к народу, должны общаться с людьми и слышать их, отвечать на любые, даже самые неприятные вопросы. На то они и министры, в конце концов.

Генералу Жадобину наверняка за "прямую линию" поставят галочку в графе *"Общение с народом".* Вот только какой смысл в таком общении?..

**Марина КОКТЫШ.**

### ВОПРОСНИК

*Вопросы, которые планировала задать "Народная Воля" Юрию Жадобину, самые обычные.*

***— Сегодня зарплата российских офицеров в разы больше, чем у белорусских. Влияет ли это на морально-психологическое состояние наших военнослужащих?***

***— Не так давно в интервью "Народной Воле" бывший министр обороны генерал-полковник Павел Козловский сказал, что белорусская армия не боеготова по технике, что ее надо реформировать и сокращать. Что думает по этому поводу Жадобин?***

***— Не так давно Лукашенко заявил, что попросил у российского президента денег на содержание белорусской армии. Сколько дали?***

### ТЕМ ВРЕМЕНЕМ

*Ответы Жадобина на вопросы "Еврорадио".*

**— Некоторое время назад председатели облисполкомов стали генерал-майорами. А какое звание у офицера запаса Александра Григорьевича Лукашенко, которой работает на должности главы Беларуси?**

— Честно говоря, я не в полной мере владею ситуацией — в каком звании находится. Вообще, у него пост главнокомандующего, как и у любого другого президента. А звание у него то, какое было до того, как он стал президентом. Но, честно говоря, я не интересовался, поэтому сказать точно не могу.

**— Как вы относитесь к такой ситуации, когда должность министра обороны занимает гражданский человек? А в некоторых случаях, как, например, в Литве, это — женщина?**

— В любом государстве, исходя из целей, задач, возложенных на Министерство обороны, существуют свои особенности. Когда разделены полномочия военно-политического характера и собственно военного, то, пожалуй, и гражданский человек возглавляет военное ведомство. Но он не решает вопросы стратегии, оперативного искусства, тактики и всех остальных, непосредственно связанных с военной деятельностью. Он занимается военно-политическими вопросами. У нас сегодня такой необходимости нет и поэтому у нас руководитель военного ведомства — профессионал. Так же, как и в других органах государственного управления — будь то министр транспорта или министр промышленности. Не политический деятель, а профессионал в своей области. Именно поэтому у нас пока так. Что-нибудь изменится в подходах к построению органов государственного управления — может, поменяется. А в целом я отношусь к этому положительно.

## *Алег Гулак судзіцца з МУС і Мінюстам*

*6 красавіка ў судзе Цэнтральнага раёна Мінска пачнецца разгляд справы невыязнога за мяжу кіраўніка РПГА "Беларускі Хельсінкскі камітэт" Алега Гулака, які скардзіцца на дзеянні МУС і Мінюста.*

Нагадаем, што ў сакавіку праваабаронца даведаўся аб тым, што яму забаронены выезд за мяжу краіны. У мясцовым аддзеле па грамадзянстве і міграцыі Гулаку патлумачылі, што ў дачыненні да яго ёсць грамадзянская справа, па якой ён выступае адказчыкам. Сам праваабаронца гэты факт адвяргае.

На дадзены момант ужо больш за дзесяць апазіцыянераў, грамадскіх дзеячаў і незалежных журналістаў заявілі аб праблемах з выездам за межы краіны. Раней прэс-сакратар беларускага МЗС Андрэй Савіных заяўляў, што "спіс невыязных" беларускіх грамадзян можа быць адказам на "чорны спіс ЕС", аднак афіцыйна існаванне "спісу невыязных" апазіцыянераў пакуль не пацвярджаецца.

ЖУРНАЛІСТ НА ПРАХАДНОЙ

# «У нас усё добра, але нічога не пакажам...»

***Карэспандэнт "Народнай Волі" спрабаваў высветліць, якая сітуацыя зараз на адным са старэйшых сталічных прадпрыемстваў — Мінскім станкабудаўнічым заводзе імя Кастрычніцкай рэвалюцыі.***




За савецкім часам гэтае прадпрыемства было ледзь не адзіным на абсягах былога Саюза, дзе выраблялiся цяжкія шматфункцыянальныя станкі. Менавіта тут у 1977 годзе была выраблена і запушчана першая ў СССР аўтаматычная лінія балансіроўкі каленчатага вала.

У 1980-м упершыню ў Саюзе на "МЗОР" былі выпушчаны балансіровачныя аўтаматы для абароннай прамысловасці, а ў 1982 годзе быў здадзены ў эксплуатацыю першы шматінструментальны апрацоўчы цэнтр з сістэмай лічбавага праграмнага кіравання.

...Сёння тэрыторыя ля прахадной завода імя Кастрычніцкай рэвалюцыі — своеасаблівы астравок СССР у беларускай сталіцы. Прадпрыемства так і не змяніла назву. Побач з прахадной Дошка гонару са здымкамі перадавікоў вытворчасці, побач — бюст правадыра ўсіх народаў Уладзіміра Леніна... Адзінае, што змянілася пасля развалу Саюза, — станкабудаўнічы завод пераўтварыўся ў адкрытае акцыянернае таварыства.

Трапіць на само прадпрыемства, каб на ўласныя вочы пабачыць, у якіх умовах зараз працуюць рабочыя, што іх хвалюе, якія праблемы існуюць, аказалася справай няпростай. На прахадной прадпрыемства карэспандэнту "Народнай Волі" патлумачылі, што без згоды намесніка генеральнага дырэктара па кадрах і ідэалогіі АляксандраІлькевіча на завод патрапіць не ўдасца...

Я звязаўся з АляксандрамІлькевічам, каб такі дазвол атрымаць. І пачуў: "Я з задавальненнем з вамі папрацую, але такія пытанні трэба вырашаць непасрэдна з генеральным дырэктарам прадпрыемства Віктарам Бутко".

У прыёмнай дырэктара ветлівая сакратарка запісала нумар майго мабільнага тэлефона, паабяцаўшы, што абавязкова перадасць просьбу шэфу. Чаканне поспехам не ўвянчалася. "Дырэктара пакуль няма на месцы..." — толькі гэта я чуў у тэлефоннай слухаўцы. Заставалася адно — ізноў ісці на прахадную і, дачакаўшыся канца працоўнай змены, гутарыць з рабочымі.

Высветлілася, што на "МЗОР" працуюць у дзве змены. Зараз на прадпрыемстве працаўладкавана прыкладна 3500 чалавек.

Сёння на "МЗОР" выпрабляюць цяжкія шматфункцыянальныя металарэжучыя, фрэзерныя, такарныя станкі... Загружанасць ёсць, людзі працуюць поўны працоўны тыдзень — заказы на прадукцыю "МЗОР" паступаюць і з Расіі, і з Латвіі, і з іншых краін...

Дарэчы, згодна з афіцыйнай інфармацыяй Нацыянальнага статыстычнага камітэта Беларусі, сярэдняя налічаная зарплата рабочых і служачых у лютым бягучага года склала 2.995.685 рублёў. Пагадзіцеся, грошы не такія вялікія, асабліва пры цяперашніх коштах на прадукты і камунальныя паслугі. У сваю чаргу прадстаўнікі беларускай апазіцыі няспынна сцвярджаюць пра тое, што "незадаволенасць працоўных мас расце" і вось хутка (ледзьве не заўтра) усё скончыцца сацыяльным выбухам. Тым не менш пратэстуючых рабочых на плошчах Беларусі як не было, так і няма. На прыкладзе сталічнага "МЗОР" можна з упэўненасцю сказаць — рабочых задавальняе ўзровень іх заробкаў.

"А што скардзіцца? Праца ёсць, заказы паступаюць, зарплату выплачваюць рэгулярна без затрымкі", — прызнаецца токар Мікалай.

Пры гэтым мужчына ні пры якіх умовах не пагаджаецца назваць сваё прозвішча. "Разумееш, мы працуем па кантракце, навошта мне непрыемнасці... Але шчыра кажу, што зарплата на прадпрыемстве годная, такую працу яшчэ пашукаць трэба. Напрыклад, у мяне на рукі чыстымі выходзіць 4 мільёны, плюс штомесячная прэмія. Ёсць і большыя заробкі, ёсць крыху меншыя... Так што грэх скардзіцца. Логіка простая: чым больш працы — тым большая зарплата. А ў нас праца ёсць заўжды, заказы на нашу прадукцыю паступаюць пастаянна".

Мікалай расказвае, што аддаў прадпрыемству больш за 30 гадоў жыцця: "Тут заўжды плацілі нармальна. А калі і ёсць нейкія нязручнасці, то можна і пацярпець..."

Што да нязручнасцяў, то рабочы наракае на наступнае: "Колькі памятаю, завод заўжды працаваў у дзве змены. Дык раней быў уласны аўтатранспарт, якім рабочых падвозілі на прадпрыемства і адвозілі дахаты. Зараз жа тыя, хто працуе ў другую змену, ездзяць на працу на ўласных машынах. А паколькі ў мяне няма аўто, дык прыходзіцца ў Лошыцу пасля другой змены пешкі дабірацца. Але і гэта не самае страшнае. І зараз, і зімой у цэхах вельмі холадна. Працуем, апрануўшы па дзве целагрэйкі, падчас вялікіх маразоў стаялі ў валёнках, сцены сырыя. Дарэчы, выдача целагрэек і валёнак нават прапісана ў нашых кантрактах. Калі з кіраўніцтвам сустрэцца ўдасца, запытайце: чаму рабочыя мёрзнуць? Але на мяне, прашу, не спасылайцеся..."

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

### ЗВАНОК НА ЗАВОД

## *«У цэхах не можа быць халодна па вызначэнні...»*

*На "МЗОР" афіцыйна абверглі інфармацыю аб тым, што рабочыя на прадпрымстве замярзаюць.*

"Хто вам такое сказаў? — здзівіліся пытанню ў аддзеле ідэалогіі прадпрыемства. — Рабочыя? Не, гэта не можа быць праўдай па вызначэнні. Ніякага холаду ў цэхах няма. На вуліцы ж амаль лета..."

Здавалася б, зняць усе пытанні, крыватолкі і паведаміць інфармацыю аб тым, як працуе завод, у якіх умовах знаходзяцца рабочыя, можна было проста: дазволіўшы карэспандэнту "Народнай Волі" наведаць прадпрыемства і ўсё пабачыць на свае вочы. Але не...

НАРОДНАЯ САЛІДАРНАСЦЬ

# «Масты» пастара Дзітрыха Бодэльшвінга

*Дарэмна шукаць вёску Дружная на старых картах Міншчыны, яе папросту не было. Але цяпер паселішча рэальна існуе — на Мядзельшчыне, у прыгожым запаведным куточку Нарачанскага краю. Вёска ўзнікла дзякуючы... народнай дыпламатыі, ініцыятыве нястомнага місіянера, пастара евангелісцкай царквы Германіі Дзітрыха фон Бодэльшвінга...*

Напярэдадні 26-й гадавіны Чарнобыльскай катастрофы Дружную наведалі члены-куратары Мінскага міжнароднага адукацыйнага цэнтра імя Йаханеса Рау, іх беларускія партнёры-гуманітарыі з розных навуковых, культурных ды гаспадарчых установаў. Ехалі з адною мэтай — пераканацца, што праекты па лініі народнай дыпламатыі, распачатыя ў 90-я гады і скіраваныя на мінімізацыю наступстваў катастрофы на АЭС, не зачахлі, а паспяхова дзейнічаюць і маюць добрую перспектыву ў будучым.



Варта нагадаць, што сумесны нямецка-беларускі праект "Дамы — замест Чарнобыля" — адзін з цэлай тысячы, якія былі ініцыяваны асобнымі грамадзянамі і дабрачыннымі арганізацыямі Германіі пасля Чарнобыльскай катастрофы. Але як усё пачыналася?

Да падзення Берлінскай сцяны многія памкненні немцаў дапамагчы людзям, што пацярпелі ад Чарнобыля, часцяком не ўспрымаліся беларускай (камуністычна-савецкай) уладай. І толькі пасля развалу СССР, пасля таго, як адкрыліся межы для кантактаў паміж простымі людзьмі, народная дыпламатыя вылілася ў масавы рух салідарнасці. Тая салідарнасць ахапіла ўвесь кантынент, яна аформілася ў канкрэтныя дзеянні многіх еўрапейцаў.

Сям'ю фон Бодэльшвінгаў ведае ўся Германія... Яшчэ дзед Дзітрыха фон Бодэльшвінга на пачатку дваццатых гадоў (Нямеччына перажывала тады цяжкі эканамічны крызіс) пачынаў гуманітарную дабрачынную місію. Збіраў фінансавыя сродкі, арганізоўваў апякунскія камітэты, розныя дабрачынныя арганізацыі, ахвяраваў свае асабістыя зберажэнні — абы толькі падтрымаць суайчыннікаў, іх матэрыяльнае становішча, маральны дух. Што рухала? Хрысціянскія запаведзі, вера ў Госпада і Чалавека... У той крызісны час старэйшы з фон Бодэльшвінгаў наладзіў будаўніцтва танных, але дыхтоўных дамоў для самых бедных нямецкіх сямей. Будаваліся ўсім народам, талакою... Асноўны будаўнічы матэрыял — звычайная гліна і салома. Адна такая нямецкая вёска, цалкам адбудаваная з гэтых "саманаў", і цяпер стаіць, жыве сабе і ў вус не дуе — зусім недалёка ад Гановера. Ужо якое пакаленне месцічаў з удзячнасцю ўспамінаюць пастара фон Бодэльшвінга...

Дзітрых прадоўжыў гуманітарную традыцыю сваіх продкаў — і не столькі ў сябе на радзіме (Германія сталася адной з самых багатых і развітых краін свету), колькі ў самых розных месцах планеты — там, дзе ўсё яшчэ гора ды бяда... У Афрыцы, напрыклад, з ягонай дапамогай рэалізавана некалькі гуманітарных праектаў, у тым ліку і будаўніцтва гліняна-саламяных домікаў...

Пастар Дзітрых Бодэльшвінг апынуўся ў Беларусі ў 1990 годзе. Праехаў па забруджаных радыенуклідамі тэрыторыях, гутарыў як з простымі людзьмі, так і з палітыкамі, гаспадарнікамі... І быў настолькі ўзрушаны (асабліва тым, што людзі жывуць на забруджанай радыяцыяй зямлі), што трываць такое не стаў — адразу ж пачаў дзейнічаць. Спачатку апытваў людзей паблізу "зоны": ці хацелі б яны перасяліцца ў чысты раён, пабудаваць з дапамогаю добрых людзей уласны дом і жыць у ім... Пасля знайшоў паразуменне са старшынёй калгаса ў Мядзельскім раёне Антонам Стомам, той пагадзіўся супрацоўнічаць, адвесці пляц зямлі пад будучую экалагічна чыстую вёску для маладых перасяленцаў-чарнобыльцаў. Праўда, астатнія ўладнікі спачатку ўпарціліся, бо што падумае партыя, яна ж усім яшчэ нібыта кіравала...

Але кола закруцілася, ініцыятыва, падмацаваная нямецкай рупнасцю і ўпартасцю, пачала рэалізоўвацца. У Германіі пастар звярнуўся з заклікам да людзей сабраць ахвяраванні для пабудовы новай вёскі ў Беларусі — для чарнобыльцаў. Былі адпраўлены лісты да ўплывовых людзей розных зямель, да знаёмых, сяброў, паствы...

Неўзабаве на рахунку было ўжо звыш 200 тысяч дойчэмарак. На заклік адгукнуліся маладыя хрысціяне-валанцёры, гатовыя выправіцца на Беларусь і сваімі рукамі пачаць узвядзенне дамоў і не толькі іх... У 1992 годзе было ўжо заснавана аб'яднанне "Дамы — замест Чарнобыля", а ў 1999 годзе — беларуская партнёрская арганізацыя "Экадом".

Домікі раслі, як грыбы пасля цёплага восеньскага дажджу. Кожныя тры тыдні працы — і новы дом гатовы. Будавалі сумесна — нашы і нямецкія валанцёры — у звязку з будучымі гаспадарамі-навасёламі. Асноўны будаўнічы матэрыял — гліна, трыснёг (замест саломы) і драўніна — усяго гэтага на Мядзельшчыне хапае. З самага пачатку было вырашана, што жыллё будзе цалкам экалагічна бяспечнае, з максімальнымі выгодамі, а на яго ўтрыманне павінна ісці мінімум электра- і цеплавой энергіі. У гэтым сэнсе дапамога нямецкіх сяброў была выключна карыснай, бо вопыту па энергазберажэнні ім не займаць. Якраз яны прапанавалі ўзвесці паблізу найсучасны (першы на Беларусі) электравятрак... І такі здзейснілі задуманае. Але гэта ўжо крышку іншая гісторыя, гэтаксама, як і гісторыя стварэння спецыяльнай вытворчасці для вырабу ўцяпляльных будаўнічых матаў з трыснягу. Усяму гэтаму як было не падзівіцца куратарам адукацыйнага нямецкага цэнтра з Мінска?! Але галоўнае — яны ўбачылі на свае вочы, што ініцыятыва і рупнасць Дзітрыха фон Бодэльшвінга, выказаная дваццаць гадоў таму і падхопленая ягонымі цяперашнімі паслядоўцамі, мае шчаслівы працяг. У вёсцы Дружная па экатэхналогіі пабудаваны 31 дом, яшчэ некалькі дзясяткаў узведзены на Лепельшчыне — у мястэчку Стары Лепель. "Народная дыпламатыя і салідарнасць простых людзей могуць горы звярнуць і пабудаваць самыя надзейныя масты між людзьмі", — казаў мне падчас паездкі прафесар Манфрэд Забел (*на фота*), адзін з куратараў Мінскага міжнароднага адукацыйнага цэнтра. — І такія масты — самыя трывалыя, бо яднаюць народы на духоўным узроўні..."

**Георгій ЧЫГІР.**
**Фота аўтара.**





БІЗНЕС

# *Невыязныя не толькі палітыкі, але яшчэ і цукеркі*

*За права гандляваць "Аленкой" і "Красной Шапочкой" з Расіяй вяліся сапраўдныя "разборкі і скандалы".*

Кіраўнік сектара прававога забеспячэння канцэрна "Белдзяржхарчпрам" **Людміла Сакалоўская** распавядае аб спробах вывозіць цукеркі вядомых марак у Расію і Казахстан, як аб звестках з поля бою. Звычайны спажывец наўрад ці думаў, што за права прадаць яму тыя ж цукеркі ідуць сапраўдныя бойкі!

*"Савецкія брэнды, такія як "Аленка", "Мишка на Севере", "Красная Шапочка" дагэтуль вельмі папулярны ў пакупнікоў,* — прызналася Людміла Сакалоўская. — *Па гэтых брэндах яшчэ да стварэння Мытнага саюза былі праблемы. Нашы вытворцы звярталіся неаднаразова да праваўладальнікаў Расійскай Федэрацыі, для таго каб заключыць ліцэнзійныя дамовы. Гэта значыць, каб наша прадукцыя пад гэтымі таварнымі знакамі магла экспартавацца ў Расію на працягу нейкага перыяду і канкурыраваць там з "Аленкой" расійскай. Але дамовіцца не ўдалося. Няўдачай скончыліся і спробы заключыць дагавор саступкі, а таксама дамовы на права пастаўкі на пэўную тэрыторыю"*.

Такім чынам, гэтыя віды цукерак фабрык "Камунарка", "Спартак" і "Красный пищевик" у Расіі нелегалы. Роўна як і расійскія адпаведнікі пад забаронай у нас. Тая ж гісторыя і з Казахстанам — кожны абараняе свайго вытворцу.

*"Калі мы кажам аб абароне інтэлектуальнай уласнасці на тэрыторыі Расіі і Казахстана, то трэба мець на ўвазе, што дзяржаўныя органы не могуць абараніць там правы на таварныя знакі нашых вытворцаў,* — адзначыў намеснік генеральнага дырэктара Нацыянальнага цэнтра абароны інтэлектуальнай уласнасці **Дзяніс Нядвецкі**. — *Яны валодаюць мінімумам паўнамоцтваў у дадзенай справе і абараніць наўпрост правы вытворцаў не могуць. Гэта права ёсць ва ўладальнікаў таварных знакаў, і яны могуць ім самастойна карыстацца"*.

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

АКТУАЛЬНО

# Стоит ли отказываться от пенсии?

*Указ А.Лукашенко "О мерах по совершенствованию пенсионного обеспечения граждан" подписан. Согласно документу, пенсионеры, которые будут продолжать работать и откажутся от пенсионного пособия, смогут в будущем претендовать на более высокую пенсию. Какой она может быть?*

Все будет зависеть от того, сколько лет работающий пенсионер жил только на зарплату и отказывался от пенсии. Указом предусмотрено, что при продолжении работы без получения государственной пенсии по возрасту после приобретения права на нее размер пенсии прогрессивно увеличивается:

**за первый полный год** работы — на 6% заработка, принимаемого для исчисления пенсии;

**за два полных года** — размер повышения составит 14% (повышение на 8% за второй год работы суммируется с повышением на 6% за первый год);

**за три полных года** — 24% (14% за первых два года плюс 10% за третий год);

**за четыре полных года** — 36% (24% за три года плюс 12% за четвертый);

**за пятый и каждый последующий год** предусматривается повышение размера пенсии на 14% заработка, которые также суммируются с процентами повышения, установленными за предшествующий период (за 5 лет — 50%, за 6 лет — 64%).



ВМЕСТО КОММЕНТАРИЯ

## *На пенсии нужно будет прожить 10 лет, чтобы вернуть деньги, недополученные за 5 лет работы*

Директор Исследовательского центра ИПМ **Александр Чубрик** подсчитал, что потенциальным пенсионерам, если есть силы работать, выгоднее получать и зарплату, и пенсию, нежели отказываться от последней во имя более высоких социальных выплат в будущем.

*"Средняя пенсия сегодня составляет 40% от средней зарплаты. Соответственно, человек за пять лет работы, отказываясь от пенсии, недополучит сумму, которая будет примерно эквивалентна величине зарплаты за два года",* — заявил в интервью "Белорусским новостям" Александр Чубрик.

Через пять лет работы, когда человек наконец-то выйдет на отдых, государство ему будет выплачивать пенсию, увеличенную на 50%.

*"50% пенсии — это примерно 20% от уровня средней заработной платы. Соответственно, человеку нужно будет прожить на пенсии 10 лет, чтобы вернуть те деньги, которые он недополучил за последние 5 лет работы",* — констатирует экономист.

Для сведения: средняя зарплата в Беларуси составляет 2 млн 964 тыс. рублей, а размер средней трудовой пенсии — 1 млн 209 тыс. рублей. Т.е средняя трудовая пенсия по стране составляет 40% от средней зарплаты. И этот показатель остается неизменным все последние годы. К слову, примерно такое же соотношение между зарплатой и пенсией, например, в Эстонии, но там власти пытаются этот разрыв сократить, потому что по европейским меркам он очень большой.

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

ПАЛІТКУХНЯ

# Апошні тэрмін Лябедзькі

*Справаздачна-выбарчы з'езд Аб'яднанай грамадзянскай партыі, які адбыўся ў Мінску ў мінулыя выхадныя, сенсацый не прынёс. Старшынёй АГП на безальтэрнатыўнай аснове быў пераабраны Анатоль Лябедзька.*

У той жа час кволая інтрыга адносна выбараў старшыні партыі ўсё ж такі была. Выклік Лябедзьку кінуў лідар маладзёжнага крыла АГП "Маладыя дэмакраты" Алег Корбан. Сваё жаданне вылучыцца на вышэйшы партыйны пост Корбан патлумачыў тым, што працу АГП трэба зрабіць больш эфектыўнай і прадуктыўнай, а дзеючае кіраўніцтва, на яго думку, рабіць гэта не надта здольнае.

*"Я вельмі добра стаўлюся да Алега Корбана,* — прызнаўся на з'ездзе старшыня АГП Анатоль Лябедзька. — *Адзінае, што мяне пакаробіла, дык гэта яго выказванні наконт таго, што старое кіраўніцтва знямоглае і стомленае, два крокі ступіць не можа..."*

У якасці доказу таго, што з фізічнай формай усё добра, Лябедзька нават быў гатовы зняць пінжак і прама на сцэне Дома культуры Мінскага трактарнага завода, дзе і адбывалася мерапрыемства, зладзіць з Корбанам спаборніцтвы па адцісканні ад падлогі, каб праз фізічныя практыкаванні даказаць прысутным, што старая гвардыя АГП яшчэ на многае здольная. Аднак да гэтага справа не дайшла. Алег Корбан на сцэну не ўзняўся...

Тое, што шанцаў на перамогу над Лябедзькам у Корбана няшмат, можна было зразумець і падчас выступленняў дэлегатаў з'езда. Так, Яўген Агурцоў і Людміла Гразнова адкрыта сказалі, што старшынёй партыі павінен застацца Лябедзька. "На сённяшні дзень альтэрнатывы Лябедзьку ў гэтай зале няма", — ледзьве не праз аднаго казалі дэлегаты з'езда ў сваіх выступленнях.

Тым не менш на пасаду старшыні партыі былі прапанаваны трое — Анатоль Лябедзька, Алег Корбан і старшыня Віцебскай абласной арганізацыі АГП Генадзь Ананьеў. Аднак двое апошніх адразу пасля вылучэння ўзялі самаадводы. Алег Корбан так патлумачыў сваё рашэнне:

*— У першую чаргу сваім вылучэннем я хацеў данесці да партыйцаў, да дэлегатаў з'езда неабходнасць рэформы ўнутры АГП. У ходзе з'езда я зразумеў, што сёння АГП не гатовая да ўнутранага кадравага абнаўлення. Ніякай дамоўленасці ні з кіраўніцтвам партыі, ні з іншымі сябрамі АГП у мяне не было. Маё вылучэнне — гэта мая асабістая ініцыятыва, за ёй ніхто не стаяў.*

Узяў самаадвод і Генадзь Ананьеў. Зрабілася ўражанне, што для яго ўвогуле "экспромт" з вылучэннем кандыдатам на пасаду старшыні АГП быў поўным сюрпрызам.

Такім чынам, выбары старшыні АГП прайшлі на безальтэрнатыўнай аснове. Хоць вынік галасавання быў вядомы загадзя, хочацца адзначыць, што ў адрозненне ад выбараў, якія праводзіць беларуская ЦВК, дэлегаты апускалі бюлетэні для галасавання ў маленькія празрыстыя урны. Са 126 дэлегатаў 101 аддаў свой голас за Анатоля Лябедзьку, 23 прагаласавалі супраць, 2 бюлетэні былі прызнаны несапраўднымі.

*"Гэта апошні з'езд, калі я вылучаўся на пасаду старшыні партыі,* — прызнаўся Анатоль Уладзіміравіч. — *Я хацеў бы на з'ездзе, калі прыйдзе такі час, перадаць партыю ў тыя рукі, якія не потныя і якія не дрыжаць"*.

Намеснікамі Лябедзькі сталі сябра палітсавета АГП Леў Марголін, старшыня партыйнай камісіі па прававых пытаннях Антаніна Кавалёва, сябра Мінскай гарадской арганізацыі АГП Людміла Пеціна і старшыня Гомельскай абласной арганізацыі АГП Васіль Палякоў.

Яшчэ адно важнае пытанне, якое вырашыў з'езд АГП, — фармат удзелу ў будучай парламенцкай кампаніі. У выніку пастанавілі: актывісты АГП, якія будуць удзельнічаць у будучай кампаніі, на передвыбарчы час становяцца так званымі "спікерамі". Кожны з іх сустракаецца з людзьмі ў сваіх акругах, давodзіць да іх інфармацыю пра тое, што выбараў у Беларусі няма і што любая выбарчая кампанія павінна праходзіць без удзелу Аляксандра Лукашэнкі. "За выбары без Лукашэнкі" — пад такім лозунгам актывісты АГП пойдуць у народ. Скарыстаўшы ўсе легальныя магчымасці для інфармацыйнай і агітацыйнай работы, якія дае выбарчая кампанія, сябры АГП здымуць свае кандыдатуры з выбараў. Той, хто гэтага не зробіць, рызыкуе быць выключаны з партыі.

АГП пакідае за сабой права паўнавартаснага ўдзелу ў парламенцкай кампаніі толькі ў тым выпадку, калі на волі апынуцца і будуць рэабілітаваны палітзняволеныя, калі ў склад усіх выбарчых камісій будуць допушчаны сябры апазіцыйных партый і будзе адменена датэрміновае галасаванне. Праўда, што для выканання гэтых умоў уладамі збіраюцца рабіць самі партыйцы, на з'ездзе так і не прагучала.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

## *Кошт «Беларуськалія» — звыш 30 мільярдаў долараў*

Такую цану дзяржаўнага прадпрыемства агучыў Аляксандр Лукашэнка. Але ці ёсць пакупнікі?

*— Мы не супраць прыватызацыі, нават такога стратэгічнага прадпрыемства, як „Беларуськалій", які прыносіць дзяржаве ў лепшыя гады да 3 мільярдаў долараў прыбытку. Але мы вызначылі цану, сёння яна складае звыш 30 мільярдаў долараў,* — заявіў Аляксандр Лукашэнка ў пятніцу на нарадзе па пытаннях прыватызацыі.

*"Тыя, хто хацеў прыватызаваць наш „Беларуськалій", яны гатовы плаціць толькі 15 мільярдаў долараў,* — удакладніў А.Лукашэнка. — *Я ім сказаў: да пабачэння, сыходзьце"*.

## *Стаўка рэфінансавання: мінус два працэнты*

У Беларусі зноў зніжана стаўка рэфінансавання — да 36 працэнтаў гадавых. МВФ лічыць гэта дачасным.

Цяперашняе зніжэнне стаўкі рэфінансавання — трэцяе з пачатку 2012 года: першы раз стаўка была зніжана 15 лютага, затым — 1 сакавіка. На працягу 2011 года гэты паказчык павышаўся 12 разоў.

Між тым кіраўнік місіі Міжнароднага валютнага фонду **Крыс Джарвіс** заявіў, што МВФ лічыць сакавіцкае зніжэнне стаўкі рэфінансавання да 38% дачасным. Паводле яго слоў, такі крок можна было зрабіць ва ўмовах зніжэння асноўных працэнтных ставак Нацбанка, ставак па крэдытаванні, калі больш умацуецца стабільнасць і знізяцца інфляцыйныя чаканні насельніцтва. *"Вельмі важна ўпэўніцца, што гэтыя ўмовы маюць месца, перш чым скарачаць працэнтныя стаўкі",* — падкрэсліў прадстаўнік МВФ.

ЧУЛІ?

## *Магчымая дата парламенцкіх выбараў — 23 верасня*

Указ пра прызначэнне выбараў у Палату прадстаўнікоў можа з'явіцца ў чэрвені, паведаміла журналістам у Палаце прадстаўнікоў старшыня ЦВК **Лідзія Ярмошына.**

Яна дадала, што самай верагоднай з'яўляецца дата 23 верасня.

Журналіст Радыё Свабода пацікавіўся, ці будуць на выбары запрошаны назіральнікі ад БДІПЧ АБСЕ. Ярмошына адказала: "*Гэта вельмі складанае пытанне, улічваючы іх ранейшыя паводзіны. Таму рашэнне будзе прымаць кіраўнік дзяржавы"*.

Лідзія Ярмошына таксама паведаміла, што прынцыповых змен у правядзенні выбараў, напрыклад, ужыванне вэб-камер, як гэта было ў Расіі на выбарах прэзідэнта, не будзе.

*"ЦВК звярнулася да спецыялістаў "Белтэлекама" з просьбай падлічыць, колькі будзе каштаваць набыццё і ўсталёўка вэб-камер. Яны адказалі, што толькі набыццё тэхнікі без падключэння будзе каштаваць 4,5 млн долараў — а гэта палова ўсяго бюджэту кампаніі. Таму мы не можам пайсці на такі крок",* — заявіла Ярмошына.

КОМПЕТЕНТНО

## *Не судьба*

*Ученые-геологи расстроили **Александра ЛУКАШЕНКО.***

В прошлом году белорусский лидер неожиданно признался в своих тайных надеждах. *"Мне все-таки кажется, что где-то у нас есть нефть. Но если есть нефть, то не может быть, чтобы где-то не прорвало природным газом. Я очень на это надеюсь... Мне кажется, что нам надо серьезно посмотреть на недра. Найдем мы что-то. Не может быть, чтобы человек искал и не нашел. Что-то найдем",* — заявил глава государства.

Ученые смотрели-смотрели и, несмотря на то, что заказ поступил из очень высокого кабинета, ничего не нашли.

*"Надежды на открытие новых крупных месторождений газа или нефти в Беларуси практически нет",* — сообщил журналистам заведующий лабораторией Института природопользования НАН Беларуси, доктор геолого-минералогических наук **Анатолий КУДЕЛЬСКИЙ.**

*"Нефть в Беларуси всегда была в Припятском прогибе, на территории Гомельской области. Эта структура образовалась более 300 миллионов лет назад, и большая часть сопутствующего газа из месторождения уже улетучилась. Этот разрез сам по себе не газоносен",* — пояснил Анатолий Кудельский.

СУСЕДЗІ

## *У Пскове паставяць помнік беларускаму князю Даўмонту*

*У Пскове плануюць паставіць помнік літоўска-беларускаму князю Даўмонту, паведамляе інфармацыйнае агенцтва "Псковская лента новостей".*

Гэта прапанова абмяркоўваецца не ўпершыню і выклікае шырокі грамадскі інтарэс. Члены мясцовай грамадскай камісіі па ўпарадкаванні назваў вуліц у Пскове падтрымалі ідэю ўстаноўкі манумента.

На думку членаў камісіі, было б сімвалічна прыняць рашэнне аб устаноўцы манумента князю Даўмонту ў Пскове менавіта ў 2012 годзе, калі адзначаецца 1150-годдзе рускай дзяржаўнасці. Аднак рэальнае ўвасабленне гэтай задумы павінна адбыцца праз 5 гадоў і быць прымеркавана да яшчэ адной юбілейнай даты — 750-годдзя прыходу князя Даўмонта на Пскоўскую зямлю.

**ДА ВЕДАМА**

Даўмонт (у хрышчэнні Цімафей, быў кананізаваны) паходзіў з Нальшанаў (паўночны захад Беларусі). Кажуць, што вялікі князь Міндоўг увёў у яго жонку, за што Даўмонт жорстка адпомсціў Міндоўгу, а потым мусіў ратавацца ўцёкамі ў Пскоў, якім ён кіраваў з 1266-га па 1299 год. Пры Даўмонце Пскоў здабыў фактычную незалежнасць ад Ноўгарада.

ЗВАРОТ

# Дзеля будучыні Беларусі

*Падзеі апошняга часу ў жыцці Бацькаўшчыны выклікаюць вострую трывогу за яе будучыню.*

*Фінансавы крызіс, дэвальвацыя рубля выявілі слабасць айчыннай эканомікі. Распачаты продаж дзяржаўнай маёмасці пагражае стратай нацыянальнага багацця, нажытага многімі пакаленнямі беларусаў. З-за непрадбачлівай і непаслядоўнай знешняй палітыкі наша краіна нястрымна аддаляецца ад дэмакратычнага свету і ўпарта коціцца да міжнароднай ізаляцыі. Настойлівымі высілкамі чынавенства груба і няўхільна дыскрымінуецца нацыянальная культура, выціскаецца са штодзённага ўжытку беларуская мова — падсякаюцца карані нацыі. Няўмольна паглыбляюцца экалагічныя і дэмаграфічныя праблемы.*

*Усё гэта ставіць пад пагрозу не толькі перспектывы цывілізаванага развіцця Рэспублікі Беларусь, але і яе незалежнасць. Настаў час усёй грамадой прааналізаваць сённяшні дзень Радзімы, знайсці шляхі выпраўлення калектыўных памылак і пралікаў, цвяроза і цвёрда паставіць задачы далейшага станаўлення і сцвярджэння нацыянальнай дзяржавы. Гісторыя ніколі і нікому не даруе бяздзейснасці на складаных, вызначальных яе паваротах. Усе здаровыя сілы нашага грамадства мусяць адкінуць асабістыя і карпаратыўныя амбіцыі дзеля святой і галоўнай мэты — свабоды і шчасця народа.*

*У газеце "Народная Воля" за 2 сакавіка Уладзімір Някляеў выказаў прапанову аб скліканні Усебеларускага з'езда. Мы падтрымліваем гэтую прапанову — і ўсіх, хто занепакоены лёсам Бацькаўшчыны, заклікаем да яднання!*

*Давайце схамянёмся. Давайце адумаемся. Давайце згуртуемся. Давайце ўсвядомім нарэшце свой асабісты абавязак перад нашчадкамі, перад чалавецтвам, перад гісторыяй, перад Беларуссю.*

*Мы можам перамагчы. Мы павінны перамагчы. Мы пераможам, калі будзем разам!*

**Рыгор Барадулін,**
**Генадзь Бураўкін,**
**Радзім Гарэцкі,**
**Анатоль Грыцкевіч,**
**сустаршыні Усебеларускага з'езда за незалежнасць 2000 г.**

*29 сакавіка 2012 года.*

ПЫТАННЕ—АДКАЗ

## Палітвязні і вязні сумлення: у чым розніца?

***Тых, каго ўлада цкуе па палітычных матывах, адны журналісты называюць "вязнямі сумлення", другія — "палітычнымі вязнямі". Патлумачце, калі ласка, гэта адно і тое ці ўсё ж такі не?***

**П.П.Тоўсцік, г.Мазыр.**

Міжнародная праваабарончая арганізацыя "Міжнародная амністыя" сапраўды падзяляе палітвязняў на дзве вялікія групы. "Вязні сумлення" — гэты тыя, чыя свабода абмежавана турэмным зняволеннем ці іншымі спосабамі выключна з-за палітычных, рэлігійных ці іншых перакананняў, полу, расы, мовы, этнічнага, нацыянальнага ці сацыяльнага паходжання, маёмаснага статусу, родных адносін, сексуальнай арыентацыі і іншых характарыстык асобы; імі не лічацца людзі, якія ўчыняюць гвалт ці прапагандуюць гвалт і варожасць.

Пад тэрмін "палітычныя вязні" трапляюць любыя зняволеныя, справы якіх маюць значны палітычны (у шырокім сэнсе) элемент: ці матывы дзеянняў зняволенага, ці самі гэтыя дзеянні, ці матывацыя ўлад.

Іншымі словамі, калі прытрымлівацца строгай класіфікацыі, то ў нашай сітуацыі пра Андрэя Саннікава ці Міколу Статкевіча, напрыклад, правільна гаварыць "палітычныя вязні", а пра Мікалая Аўтуховіча ці пра хлопцаў-анархістаў — "вязні сумлення".

ТАК ДУМАЮ

## Все они — жертвы

Я с интересом прочитал открытое письмо Александра Васильева заместителю председателя Центральной избирательной комиссии Республики Беларусь по выборам и проведению республиканских референдумов Н.И.Лозовику ("Народная Воля" за 16 марта). Да что его укорять? Подавляющее большинство представителей "президентской вертикали", в том числе и Лозовик, являются фактически собственностью власти, сосредоточенной в одних руках. Они — просто винтики системы. Как только, к примеру, кто-то из них услышит даже не прямое указание, а уловит хотя бы очень тонкий, еле-еле уловимый сигнал, легкое "шуршание" со стороны "хозяина", он, естественно, тут же превратится в машину по исполнению любой команды свыше. Иначе на его месте окажется другой, более чуткий...

Если бы чиновники всех рангов с таким же рвением учились управлять современным производством, сельским хозяйством, наукой, медициной, образованием! На все эти дела у них ресурсов уже не остается. Все силы уходят на "чего изволите?". И кто им позволит задуматься над тем, что же именно они ревностно исполняют? Хотя персонажи, которые угодили в "черный список" ЕС, это вполне заслужили, считаю, они тоже являются жертвами диктаторского режима, как и все мы...

**Валерий ПОТЕМКИН,**
**житель Могилева.**

ПАЗІЦЫЯ

# Зменім варожасць на сяброўства

Пакуль што Рэспубліка Беларусь не з'яўляецца сябрам Еўрасаюза і нашы адносіны з гэтым аб'яднаннем не проста халодныя, але, я лічу, нават штучна варожыя. Каб змяніць сітуацыю, нам трэба правесці сапраўдныя выбары — свабодныя, дэмакратычныя, не пад кантролем рэжыму, а пад кантролем грамадскіх арганізацый і палітычных партый. Ранейшыя выбары нельга назваць выбарамі. Хутчэй гэта няўдалая імітацыя волевыяўлення людзей з правакацыямі, збіеннямі, арыштамі, судамі, турмамі, канфіскацыямі. Усяго не пералічыць!

Такія псеўдавыбары непрымальныя ні для Еўропы, ні для пісьменных грамадзян Беларусі. Невыпадкова вынікі іх лічацца нелегітымнымі.

Адным словам, каб Беларусь паважалі ў цывілізаваным свеце, яна павінна правесці сапраўды дэмакратычныя выбары. Пры гэтым мы, шараговыя грамадзяне, разумеем, што хаўрус нашых сённяшніх улад з Масквой нічога добрага не прынясе. Крэмль не будзе спрыяць дэмакратызацыі нашай краіны. У яго іншая мэта. Замест Савецкага Саюза ствараецца Саюз "трох дыктатур", для якіх ідэалы дэмакратыі і свабоды маюць аморфны характар. Іх сіла — гэта войскі і міліцыя, паліцыя са сваімі спецназамі, суды і пракуратуры... Карная сістэма захоўвання існуючай улады фінансуецца спаўна, трымаецца напагатове і выкарыстоўваецца, як толькі ўзнікае нейкая пагроза.

Мы, беларусы, павінны сябраваць з усімі, чые дзеянні не пярэчаць нашым нацыянальным інтарэсам. Якніяк, а той жа Захад нам шчыра дапамагае, нягледзячы на варожае стаўленне беларускіх улад да кіраўнікоў Еўрапейскага Саюза. Яго дабрачыннасць мае сталы падмурак. Узгадаем крокі Еўропы пасля таго, як Беларусь напаткала чарнобыльская трагедыя. Дарэмна ўлады гавораць, што нас усе кінулі. Еўропа не кінула. Вось факт. 240 мільёнаў еўра (у эквіваленце) былі накіраваны на зніжэнне небяспекі ў зоне вакол атамнага рэактара. 100 мільёнаў еўра было выдзелена на вывучэнне пытання радыеактыўнага ўплыву на здароўе жыхароў і навакольнае асяроддзе, а таксама на паляпшэнне лячэння хворых на рак шчытападобнай залозы, на забеспячэнне насельніцтва чыстымі прадуктамі.

У межах праграмы TACIS была аказана неадкладная медыцынская тэхнічная дапамога. Дадаткова ў 1998—2001 гадах Беларусь па праграме "ЕСНО" атрымала 6,7 мільёна еўра ў выглядзе гуманітарнай дапамогі, накіраванай на знішчэнне наступстваў катастрофы.

Нельга не ўзгадаць праграму "CORE" (супрацоўніцтва дзеля рэабілітацыі). Яе мэта — палепшэнне ўмоў жыцця людзей на пацярпелых тэрыторыях і прыцягненне іх да рэалізацыі праектаў мясцовага развіцця. Плануецца здзейсніць 146 праектаў з агульным бюджэтам 9 мільёнаў еўра.

2,4 мільёна еўра выдзеліў Еўрапейскі Саюз на праект "Мінімізацыя наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь". Дзякуючы яму паспяхова вырашыліся многія праблемы ў Слаўгарадскім, Чачэрскім, Брагінскім, Столінскім раёнах. Так, у апошнім прадугледжана забеспячэнне мясцовай бальніцы неабходным абсталяваннем і матэрыяламі.

Пры дапамозе еўрапейскіх сяброў у мінулым годзе пасля рэканструкцыі і аснашчэння новым абсталяваннем былі адчынены тры навучальныя ўстановы: Цэнтр вучобы і рэабілітацыі дзетак з абмежаванымі магчымасцямі ў Хойніках, дзіцячы садок у Ветцы і сярэдняя школа ў вёсцы Пыхань гэтага ж раёна.

Не ўсе ведаюць, што Еўрасаюз дапамагае захаваць беларускі лес. Праграма мае назву "Совершенствование правоприменения и управления в лесном секторе" ("FLEG"). Кіраўнік праграмы Энюр Мітчал.

Пад лясамі ў нас занята 38,5 працэнта агульнай плошчы. Мэта міжнароднай праграмы "FLEG" — папярэдзіць і спыніць наступствы незаконнага знішчэння лясоў, нелегальнага гандлю драўнінай, браканьерства і карупцыі.

Вядома ж, я пералічыў далёка не ўсе праекты, якія былі рэалізаваны і рэалізуюцца пры дапамозе фінансавых сродкаў Еўрапейскага Саюза. Дык ці трэба нам, беларусам, псаваць адносіны з Захадам?

Дарэчы, мы павінны быць удзячны Еўрасаюзу за яго жаданне дапамагчы нам у дэмакратызацыі краіны, у правядзенні рынкавых рэформ. Дарэмна беларускія ўлады крыўдзяцца на брусельскіх чыноўнікаў, якія патрабуюць ад лукашэнкаўскага рэжыму хутчэйшага вызвалення палітвязняў. Цывілізаваная Еўропа працягвае руку дапамогі беларускаму народу, і мы павінны адказаць сяброўствам.

**Барыс ЗАБАЛОТНІК,**
**пенсіянер.**

*Мінск.*

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

# Пікет

**У Брэсцкім раёне ўлады не дазволілі пікеты супраць збяднення насельніцтва, якія планавалася правесці ў вёсках. Напрыклад, у пасялковым савеце, у які ўваходзіць вёска Страдзеч, парэкамендавалі спачатку заключыць дамову з міліцыяй на ахову парадку пры правядзенні пікета.**

*Быў колісь конюхам Мікіта*
*(З дзясятак, можа, год назад).*
*На ўладу быў стары сярдзіты —*
*Плаціла пенсіі няшмат.*
*Трымаў ён зло і на суседа,*
*На Апанаса, бо "насос".*
*Як "недапіты" быў, дык дзеда,*
*Каб грошай даў, за грудзі трос.*
*Прэтэнзій шмат і да Палажкі,*
*Уласнай жонкі, меў стары.*
*Быў у яе характар цяжкі,*
*Звяглівы, ліха пабяры.*
*Круціла дзедам, як хацела,*
*Усё ёй прынясі-падай.*
*Дадаткам, мовіць так, да цела*
*Не падпускала — во бяда!*
*Калі Мікіта млеў ад страсці,*
*Пад нос савала дулю-жэст.*
*— А во табе! — казала. — Трасцы!*
*У дзеда выспяваў пратэст.*
*Нарэшце лопнула цярпенне,*
*І парашыў аднойчы дзед:*
*"Каб паказаць ім абурэнне,*
*Пайду і стану я ў пікет!"*
*Калісь чытаў стары ў газеце*
*(А ён газет выпісваў пяць),*
*Што на пікет у сельсавеце*
*Дазвол патрэбна атрымаць.*
*Пайшоў з заяваю Мікіта*
*У сельсавет, да старшыні.*
*А той надзьмуўся, сыч нібыта:*
*— Лухту мне, злыдзень, не гані!*
*Няўжо на старасці здзяцінеў?*
*А каб цябе агрэў пярун!*
*Як корч, сядзі ў сваёй хаціне*
*І мульцікі глядзі, пярдун!*
*Што хочаш ты сваім пікетам*
*Сказаць?*
*Тваю такую маць...*
*Дык знай: міліцыі пры гэтым*
*Парадак трэ аберагаць.*
*У райаддзел пішы заяву —*
*Няхай там выдзеляць нарад.*
*А як ты думаў? На халяву*
*Зрабіць пікет ахвочых шмат.*
*Міліцыянты для Мікіты*
*Патрэбны, нібы воўк каню.*
*Пайшоў дахаты дзед.*
*"Ідзі ты!.. —*
*"Паслаў" у думках старшыню. —*
*Я абыдуся без аховы,*
*Быць пад аховай — не па мне.*
*За тыя правільныя словы*
*Ніхто мне рэбры не памне.*
*Я сам, як той бугай, здаровы,*
*Хоць і ўжываю самасад..."*
*Узяў аловак каляровы*
*І напісаў такі плакат:*
*"Праклён за пенсіі-падачкі,*
*Што ўрад адмервае для нас!*
*Апойкам ганьба! На карачкі*
*Заўжды садзіцца Апанас!..*
*Палажку ганьблю я, бо ў ложку*
*Яна ляжыць, як бервяно!*
*Паварушылася б хоць трошку,*
*Прыпадняла б сваё сцягно..."*
*Ён стаў з плакатам ля канюшні,*
*Дзе бавіў лепшыя гады.*
*І найпярод свой нос сінюшны*
*П'янь-Апанас прынёс сюды.*
*Не ўсёк, азызлы, што ў Мікіты*
*Тут дэманстрацыя, пікет.*
*Спытаўся голасам прапітым:*
*— А што ты робіш тут, сусед?*
*Ты тут жабрачыш? Грошай мала?*
*Не засталося ў катуху*
*Ні бульбы, ні кавалка сала?*
*Дык памагу табе крыху...*
*Хоць не залью я сёння ў глотку,*
*На хлеб я дам табе, дальбог...*
*І пакамечаную "сотку"*
*У дзеда кінуў каля ног.*
*У дэманстранта слоў нямашка,*
*Пікетчык прыглынуў язык...*
*А тут і родная Палажка*
*Прыбегла, ўзбілася на крык:*
*— Хіба ж табе "араць барозны"?*
*На печы б лепш сядзеў маўчком.*
*Каму ты трэба, "хахаль грозны",*
*Як заяц, са сваім "стручком"?..*
*За што ж мне, Бог, такая кара?*
*Канца пакутам не відно...*
*І трэснула Мікіту ў карак —*
*Стары скапыціўся ажно.*
*Тады ўсвядоміў клёк ягоны:*
*"Каб быў міліцыі нарад,*
*Ён для належнай абароны*
*Ад жонкі быў бы акурат".*
*Нарад якраз да дзеда чэша,*
*Бо сельсавецкі старшыня*
*Паслаў у райаддзел дэпешу:*
*"Пікет у нас тут сярод дня".*
*І замест тога, каб ад жонкі*
*Абараняць дзядка, "мянты"*
*Яму паведалі:*
*— Да шконкі*
*Цяперка прывыкацьмеш ты.*
*На рукі ўздзелі "бранзалеты"*
*І, натаўхаўшы трохі ў бок,*
*Арганізатара пікета*
*Павалаклі у "варанок".*
*А потым — суд і каталажка,*
*Дзе ні наедку, ні цяпла...*
*Дадаткам жа яшчэ й Палажка*
*У прочкі ад яго пайшла*
*Да адзінокага Кірэя:*
*Хоць ён плюгавы і крывы,*
*Затое ў ложку не старэе,*
*Гігант, як кажуць, палавы...*

* * *

*Ну што, сябры, сказаць на гэта?*
*Во дачакаліся пары:*
*Цяпер ільга рабіць пікеты*
*Ці ў хаце, ці ў сваім двары.*

РЭХА

## Калі падлічыць усіх «Ленінаў» і яму падобных, то можна жахнуцца

Дарагія сябры народавольцы!

Правільна паставіла пытанне паважаная Марына Коктыш наконт помнікаў, якія павінны стаяць на нашых плошчах і вуліцах, каб выхоўваць гонар за лепшых сыноў Бацькаўшчыны, што аддалі ёй жыццё.

Хачу працягнуць размову, закрануўшы і назвы нашых вуліц, якія нярэдка абражаюць розум і рэжуць вока. Аб гэтым, дарэчы, не аднойчы пісала "Народная Воля". Але камуністычная ідэалогія ўсё яшчэ не выветрылася з галоў многіх асоб, хто кіруе краінай. І мы па-ранейшаму мусім "любавацца" і "ганарыцца" імёнамі "дзеячаў", якія пакінулі ў гісторыі нашай Радзімы далёка не светлы след ці наогул не маюць ніякага дачынення да Беларусі.

Колькі можна натыкацца, да прыкладу, у сталіцы суверэннай дзяржавы на шыльды з назвамі вуліц Леніна, Ульянаўская (вядома, якім "прыхільнікам" беларускай незалежнасці быў правадыр сусветнага пралетарыяту, як і яго спадзвіжнікі Свярдлоў, Дзяржынскі), Валадарскага, Лібкнехта, Цэткін (гэтыя столькі "зрабілі" для Беларусі, што і не расказаць!) і г.д. Гэты спіс, на жаль, можна доўжыць і доўжыць, і не толькі па Мінску. Калі падлічыць колькасць падобных назваў на тэрыторыі краіны, то можна жахнуцца.

А між тым у нас не ўшанаваны годна ў тапаніміцы імёны і справы вялікіх патрыётаў Айчыны, яе слынных герояў і з далёкай мінуўшчыны, і бліжэйшых часоў. Да прыкладу, легендарнага полацкага князя **Рагвалода** ці вялікага князя ВКЛ **Вітаўта**, адраджэнцаў пачатку XX стагоддзя братоў **Луцкевічаў** і **Вацлава Ластоўскага**, знанага палітыка нашых нядаўніх дзён **Генадзя Карпенкі**, народнага пісьменніка **Васіля Быкава**... А чаму б не перайменаваць сталічны праспект газеты "Правда" — былога органа ЦК КПСС, якой даўно ўжо няма, у праспект газеты "Народная Воля"? Вось гэта было б дарэчы! А то жывём, патанаючы ў тумане мінулага...

**Сяргей ГЕРАСІМЧЫК,**
**мінчанін.**

### АД РЭДАКЦЫІ

*Дзякуй за слушныя прапановы, шаноўны спадар Герасімчык! Спраўдзіцца ж яны змогуць хіба тады, калі кіраўніцтва краіны само будзе кіравацца народнай воляй, а не спарахнелымі догмамі.*



МНЕНИЕ

## А было так красиво... Но только один миг

Здравствуйте, уважаемая "Народная Воля"!

Большое вам спасибо за честный труд на благо Беларуси. Я пожилой человек, мне за 80 лет. Хочу высказать свое мнение о нашем руководстве и его уровне управления страной.

За все свои годы я видел многое при советской власти, но таких руководителей, как сейчас, еще не приходилось! Как можно верить их словам, если кругом — сплошной обман и пустые обещания?.. Как все было красиво в 2010 году, когда перед президентскими выборами А.Лукашенко вместе с тогдашним банкиром П.Прокоповичем на весь телеэкран показывали пирамидку золотых слитков, рассказывали умиленно, какой у страны прочный золотой запас. На Всебелорусском собрании (считай, совещании чиновников всех рангов) глава государства авторитетно заявил, что средняя зарплата после выборов составит более 500 у.е. и все будут жить хорошо. Собрание напоминало съезд КПСС. Речь главного оратора прерывалась бурными овациями...

Но овации, в том числе и со стороны не в меру доверчивых граждан, умолкли очень скоро. Через два-три месяца после выборов наша экономика рухнула, нацвалюта потеряла свою платежеспособность, цены выросли в 3—4 раза. А.Лукашенко начал обвинять народ в том, что многие плохо работали, несознательно сняли свои деньги со вкладов в банках и т.д. Но большинство людей не дураки, как думают верховоды у власти. Многие прекрасно знают, что причина экономического кризиса в стране — неспособность "верхов" руководить страной, неумение налаживать взаимовыгодные отношения с другими странами мира. Как народ может гордиться своей страной, если глава государства — невъездной в страны Евросоюза, Америку, если на правительственном уровне с нами мало кто желает вести деловой разговор и приезжать к нам? И не поедут, пока руководство Евросоюза возводится в ранг "козлов", по выражению А.Лукашенко... Стыдно нам, простым людям, что ложь, хамство и грубость возведены в сегодняшней Беларуси в ранг государственной политики.

Все это мы видим и глубоко переживаем. Но сколько разных приспособленцев-политиков, аналитиков и других "спецов" на гостелевидении вешают нам лапшу на уши: мол, живем хорошо, рубль укрепился, цены падают. Хотелось бы, чтобы такие новости находили подтверждение в реальной жизни, но — увы...

Когда А.Лукашенко всем объявил, что будет продолжать свой курс развития страны, то уже многому наученные люди поняли: добра не жди!

**Адам Романович СКАЛАБАН,**
**житель г.Солигорска.**

ЧИТАТЕЛЬ ПРОДОЛЖАЕТ РАЗГОВОР

# Логика или убеждение?

Я с большим интересом прочитала статью Михаила Пастухова "Какие политические реформы нужны Беларуси" ("Народная Воля", №№23—24). Со всеми предложениями автора я полностью согласна, и очень хотелось бы, чтобы наши руководящие товарищи ознакомились с предложениями высококвалифицированного юриста и приняли их за основу при демократизации политической системы в Беларуси.

Со своей стороны, как гражданка Республики Беларусь и потребитель услуг правоохранительных органов, я хочу внести свои предложения по совершенствованию правоохранительной системы в Республике Беларусь.

Статья 19 Уголовно-процессуального кодекса Республики Беларусь гласит:

"1.Суд, орган уголовного преследования оценивают доказательства, руководствуясь законом и своим внутренним убеждением, основанным на всестороннем, полном и объективном исследовании всех обстоятельств уголовного дела в их совокупности".

Статья аналогичного содержания имеется и в Гражданском процессуальном кодексе РБ (ст.241).

Как известно, убеждение — это не твердое знание, а категория, близкая к предположению, которое, согласно духу закона, не может являться основанием для принятия какого-либо правового решения. Поэтому прежде всего указанные статьи кодексов содержат внутри себя некое противоречие с законом (убеждение — предположение). На мой взгляд, было бы более правильно заменить в статьях слово "убеждение" на слово "логика". Логика является наукой объективной, то есть точной, а убеждение — это явление субъективное, то есть не гарантированно точное. Я думаю, что любой правоохранитель (судья, прокурор, следователь) должен руководствоваться только законом и логикой. Вина может быть доказана или не доказана, соответственно, человек может быть признан виновным или невиновным. А убеждение — здесь лишнее и не только. Оно приносит много вреда правоохранению, поскольку дает лазейку нечестным правоохранителям протаскивать необъективные и несправедливые решения, прикрываясь возможностью решать вопросы в конечном итоге по убеждению, то есть по субъективному мнению по принципу: кто больше даст — на той стороне и будет его убеждение.

Чтобы не быть голословной и чтобы меня не упрекнули в предвзятости, я приведу конкретный пример. Касается он гражданско-уголовного дела, связанного с мошенническим оформлением договора дарения жилого дома №2 по улице Железнодорожной в д.Лунин Лунинецкого района.

**МБТИ** выдало "одаряемой" стороне без присутствия и без доверенности от "дарительницы" (дом она не собиралась дарить и не дарила) документы для дарения дома. Но выдача гражданину не его документов является незаконной. Тем не менее убеждение, что все согласовано с дарительницей, оказалось сильнее закона.

**Нотариус** Лунинецкой нотариальной госконторы приняла от "одаряемого" документы "дарительницы" без ее присутствия и без доверенности от нее. Здесь так же, как и в случае с МБТИ, убеждение оказалось сильнее закона. На самом деле часть документов была у "дарительницы" украдена.

**Судья,** которая рассматривала дело о признании договора дарения дома недействительным, за основу брала копию договора, а не оригинал его, а это прямое нарушение статьи 195 ГПК РБ. На основании копии, а не оригинала судья была "убеждена", что договор был обоюдно подписан. На самом деле "дарительница" никаких договоров не подписывала. Опять "убеждение" оказалось сильнее закона.

**Лунинецкий РОВД и райпрокуратура** до сих пор не провели проверку двадцати подозрительных по многим признакам документов, о которых я говорила в своем обращении от 15.11.2005 года. Видимо, будучи "убеждены", что документы достоверные, они давали мне голословные, формальные отписки. В проверочном деле нет протокола проверки.

**Почерковедческие экспертизы** только одного документа (я просила всех) проведены по недостоверным материалам, то есть на них отсутствовали необходимые атрибуты достоверности: типовая форма бланка, подписи ответственных лиц, печати. Однако ни РОВД, ни прокуратура, готовившие и отправлявшие сравнительные материалы, ни экспертные учреждения не провели оценку материалов на достоверность, будучи "убеждены", что материалы достоверные.

Я думаю, что и приведенных фактов достаточно, чтобы понять, что право правоохранителей на убеждение вместо логики и доказательств дает возможность некоторым правоохранителям принимать антизаконные и несправедливые решения. Эти факты свидетельствуют также о необходимости реформ в правоохранительной системе.

На мой взгляд, как потребителя услуг этой системы, главное внимание нужно уделить повышению качества правоохранительной деятельности, повышению дисциплины, спроса и ответственности во всех инстанциях правоохранительной вертикали и между инстанциями. Для чего провести следующие мероприятия:

**1.Убрать из процессуальных кодексов слово "убеждение" и заменить его словом "логика".**

**2.Ввести в практику принцип неотвратимости наказания за нарушение закона и невыполнение законных указаний вышестоящих инстанций.**

**3.Ввести в практику принцип "наказание вышестоящим нижестоящего за ненаказание последним еще более нижестоящего, нарушившего закон или не выполнившего свои должностные обязанности".**

**4.Полностью отделить от Министерства юстиции суды и адвокатуру для более объективной состязательности между ними при рассмотрении дел с созданием их независимых вертикалей.**

**5.Экспертизу целесообразно вывести из подчинения ведомств и создать свою независимую вертикаль.**

**Ольга Михайловна САКВЕНКОВА,**
**минчанка.**

ВАС ЦІКАВІЦЬ...

## Працаваў, але стажу няма? Можа быць і такое

***Маю пытанне ў сувязі з новаўвядзеннямі ў пенсіённым заканадаўстве. Як аб'яўлена, калі чалавек, дасягнуўшы пенсіённага ўзросту, не афармляе пенсію, яму будуць налічвацца дадатковыя сумы — як афіцыйна напісана, пэўныя працэнты заробку. Якога заробку? За тыя гады, што чалавек рабіў, не атрымліваючы пенсію?***

**А.А.Каравайскі.**

Як патлумачыла намеснік міністра сацыяльнай абароны **Валянціна Каралёва,** улічваецца ўвесь заробак, які прымаецца пры налічэнні грамадзяніну пенсіі. За час, што людзі знаходзіліся на вучобе, у арміі, у адпачынку па доглядзе за дзецьмі, інвалідамі і т.п., заробак будзе складаць 40% ад сярэдняга па краіне за гэты перыяд. Хаця раней гэтыя гады залічваліся ў стаж, але, так бы мовіць, "грашовага эквіваленту не мелі", пры разліку пенсіі не ўлічваліся.

Ёсць і яшчэ адзін аспект, на які звярнула ўвагу Валянціна Каралёва. Калі ваш заробак меншы за мінімальна ўстаноўлены па краіне, то ваш працоўны стаж будзе лічыцца няпоўным.

